№ 3(27)
Люты 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



# Перарэгістрацыя = забарона...

Слова "апазіцыя" на постсавецкіх прасторах, за выключэньнем прыбалтыйскіх краінаў, па сёньня зьяўляецца сінонімам слова "вораг". Незалежна ад таго, хто знаходзіцца пры ўладзе: неакамуністы ці камуністы былыя (партакраты). Успрымаць гэта трэба як перажытак мінулага альбо рудымент савецкіх часоў, калі панавала "адзінагалоснасьць" бяз нейкіх там "іншых меркаваньняў". Да ворага ж адносіны таксама цалкам зразумелыя і здаўна прадвызначаныя: калі ён не здаецца, яго зьнішчаюць... І таму да разуменьняісьцінаў, што "пад сонцам усім месца хопіць" і "на тое і шчупак у рацэ, каб карась не драмаў" — нам яшчэ вох як далёка...

Пра гэта сьведчыць і новы дэкрэт прэзідэнта Беларусі, падпісаны 26 студзеня. За назвай "Аб некаторых мерах па

(Працяг на стар 2)

## Хроніка

*23 студзеня* ў Барысаве адбылося несанкцыянаванае пікетаваньне на цэнтральнай плошчы горада, накіраванае супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі. Пікетаваньне праводзілі гарадзкія арганізацыі БНФ і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная грамада». Пікетоўшчыкі трымалі бел-чырвона белыя сьцягі і лозунгі «Рукі прэч ад Беларусі», «Я люблю Беларусь!» на ангельскай мове. Аднаго з арганізатараў пікету Аляксандра Абрамовіча (старшыня гарадской арганізацыі БСДГ (НГ) даставілі ў гарадзкі адзьдзел міліцыі. Там на яго быў складзены пратакол па арт. 167. КоАП РБ «Аб парушэньні парадку правядзеньня вулічных маніфестацый».

*23 студзеня* ў Пінску адбыўся пікет, накіраваны супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі. Дазвол гарвыканкама быў атрыманы са спазьненьнем на 2 сутак. 26 студзеня па позве у Пінскі гарадзкі аддзел міліцыі быў выкліканы рабочы Юрась Салавей. Быў складзены пратакол аб парушэньні рашэньня гарвыканкама. Потым Ю.Салавей быў дастаўлены ў гарадзкі суд. Судзьдзя Лешчанка паведаміў аб тым, што Ю. Салаўя чакае прысуд да 15 сутак арышту ці штраф ад 100 да 250 мінімальных заробкаў.

*26 студзеня* прэзідэнт РБ А.Лукашэнка падпісаў дэкрэт №2 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці палітычных партый, прафесійных саюзаў, іншых грамадзкіх аб'яднаньняў», якім увёў абавязковую перарэгістрацыю грамадзкіх арганізацыяў. У адпаведнасьці з Дэкрэтам з 1 лютага па 1 ліпеня 1999 года пройдзе перарэгістрацыя палітычных партый, грамадзкіх аб'яднаньняў, прафсаюзаў, а таксама іх сімволікі.

(Працяг на стар.6-7)

# Летапіс правапарушэньняў...

**4 лютага Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" прэзентаваў свой першы гадавы "Агляд (Правы чалавека ў Беларусі, 1998 г.)"**




"Вясна-96" — адна з маладзейшых праваабарончых арганізацыяў Беларусі. Створаны ў красавіку 1996-га году, на хвалі масавых акцыяў пратэсту грамадзянаў супраць устанаўленьня ў краіне дыктатарскага, таталітарнага рэжыму, дзеля аказаньня рэальнай дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў, Праваабарончы Цэнтр за кароткі тэрмін змог стаць адной з прыкметных недзяржаўных грамадзкіх праваабарончых арганізацыяў Беларусі. Найперш таму, што займаецца канкрэтнай і такой патрэбнай сёньня працай: передачай прадуктаў харчаваньня палітвязьням у месцы зьняволеньня, матэрыяльнай і маральнай падтрымкай іх сем'яў, арганізацыяй прававой дапамогі падсьледным і падсудным, наладжваньнем прававой адукацыі грамадзянаў... Менавіта гэта падкрэсьлівалі ў сваіх выступленьнях шматлікія госьці, якія прыйшлі на прэзентацыю першага гадавога "Агляду" парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі, выдадзенага паводле фактаў, матэрыялаў, дакументаў, сабраных супрацоўнікамі "Вясны-96" у мінулым, 1998-ым годзе. У 18 разьдзелах "Агляду" зафіксаваныя парушэньні правоў чалавека, учыненыя ўладамі Беларусі летась, дарэчы, у годзе, у якім увесь сьвет адзначаў 50-годзьдзе прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Па сутнасьці, гэта своеасаблівы плён супольнае гадавое працы ўсяго Цэнтра.

Уступным словам адкрыў вечарыну старшыня "Вясны-96" Алесь Бяляцкі, які коратка расказаў прысутным пра гісторыю стварэньня і дзейнасьць Цэнтру. Далей выступалі госьці імпрэзы, у тым ліку і, калі так можна сказаць, героі "Агляду": намеснік старшыні Беларускага Народнага Фронту Юры Хадыка, дэпутат ВС 13-га скліканьня Валеры Шчукін, былы член Канстытуцыйнага суда РБ Міхаіл Пастухоў, настаўніца Леанарда Мухіна, жонкі дэпутатаў-вязьняў рэжыму Тацяна Клімава і Зоя Кудзінава, адвакат-праваабаронца Надзея Дударава ды інш. В. а. старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, не пазьбягаючы гучных словаў, назваў справу, якую робяць супрацоўнікі Цэнтру "Вясна-96" "грамадзянскім подзвігам". "Сёньня, — сказаў Л. Баршчэўскі — церпяць ад рэжыму: трапляюць за краты, атрымліваюць непамерныя грашовыя штрафы лепшыя людзі Беларусі — музыканты, кінарэжысёры, пісьменьнікі, студэнты... Ім патрэбная падтрымка. І "Вясна-96" усімі магчымымі сродкамі дапамагае ім. Пройдзе час і, я ўпэўнены, гэты рэжым сыйдзе ў нябыт. Але ніякая дэмакратыя, нават самая ідэальная, ня можа гарантаваць поўнае захаваньне правоў чалавека. А таму праца ў праваабарончых арганізацыяў кшталту "Вясны...", на жаль, будзе заўсёды..."



Жонкі дэпутатаў-вязьняў: А. Клімава — Тацяна і У. Кудзінава — Зоя, на прэзентацыі "Агляду".

На прэзентацыі прысутнічалі і замежныя дыпламаты: намесьнік пасла Вялікабрытаніі ў РБ Марк Петык і дарадца пасольства чэшскай рэспублікі Карэл Харанда.

**Наш. кар.**

# Перарэгістрацыя = забарона...

(Пачатак на стар. 1)

ўпарадкаваньні дзейнасьці палітычных партый, прафесійных саюзаў, іншых грамадзкіх аб'яднаньняў" бачыцца непрыхаванае жаданьне разабрацца са сваімі палітычнымі апанентамі. Знаёмства са зьместам гэтага "дакумента" толькі пацьвярджае думку, што створаны ён ня столькі дзеля рэгістрацыі (перарэгістрацыі) партый і аб'яднаньняў, колькі дзеля іх забароны. На гэта скіраваныя ўсе зьмены, унесеныя ў дакумент, калі параўноўваць яго з папярэднім падобным актам. Па-першае, удвая павялічаная колькасьць сяброў партый у сьпісах, якія трэба прадаставіць дзеля рэгістрацыі, па-другое, у гэтых сьпісах неабходна ўказаць акрамя прозьвішча сябра ягоны хатні адрас і месца працы, па-трэцяе, у прафесійныя саюзы павінна ўваходзіць ня менш за 10 працэнтаў рабочых таго прадпрыемства, дзе яны арганізуюцца і гэтак далей.

У тэксце дэкрэта акрамя таго нямала і розных "падводных плыняў і камянёў". Скажам, што на справе будзе азначаць рэгістрацыя партыйнай сімволікі ня ведае ніхто. Зразумела толькі, што арганізацыі, якія маюць у сваёй сімволіцы нацыянальныя бела-чырвона-белыя колеры будуць мець нямала клопатаў.

Лідэры беларускіх партый адразу назвалі гэты дэкрэт драконаўскім. І заначылі, што ён груба парушае ня толькі артыкул 20 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і артыкул 22 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, але і артыкул 36 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які гарантуе грамадзянам краіны мажлівасьць стварэньня палітычных, прафесійных і іншых аб'яднаньняў.

Яшчэ больш зразумелымі намеры прэзідэнта сталі пасьля аб'яўленьня аб стварэньні камісіі, якая будзе вызначацьці можа партыя прайсьці перарэгістрацыю ці не, і асабліва персанальнага складу гэтай камісіі. Ужо само зьяўленьне гэтай камісіі пазазаконнае. Рэгістрацыяй партый і аб'яднаньняў паводле існуючага заканадаўства павінна займацца Міністэрства юстыцыі. І толькі. У Беларусі ж, як бачым, створаная структура, якая будзе дыктаваць Мінюсту, якое рашэньне прымаць. І аспрэчыць гэтую "параду" (а як інакш назваць "рашэньне" камісіі) забароненым партыям ня будзе дзе...

Узначаліў камісію вядомы змагар з дэмакратыяй і беларускай культурай віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін, а ў склад яе, акрамя прадстаўніка Мінюста, увайшлі прадстаўнікі... усіх сілавых структураў. Думаць, што гэтая камісія будзе аб'ектыўнай, тое ж самае, што даручаць ваўкам ахоўваць авечак.

Перарэгістрацыя пачалася 1 лютага і будзе доўжыцца да 1 ліпеня. Уключацца ў яе апазіцыйныя беларускія партыі не сьпяшаюцца. Да дня заканчэньня перарэгістрацыі — 1 ліпеня г.г. — яшчэ будуць вясна і 16 траўня. А значыць ёсьць і надзея, што паступацца ўласнымі прынцыпамі не давядзецца.

**Андрэй НАЛІВА**

# Барыс Гюнтэр:
# «Мы давядзем справу выбараў да лагічнага канца!»

***Гутарка карэспандэнта "Права на волю" з дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, сакратаром Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Барысам ГЮНТЭРАМ.***

***— Спадар Гюнтэр, выбары прэзідэнта Беларусі ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй 1994-га году прызначаныя на 16 траўня. Раскажыце, як і чаму гэта адбылося?***

— Дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, якія засталіся вернымі Канстытуцыі 1994-га году, ўзялі на сябе дзяржаўны абавязак выконваць функцыі Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня ў яго поўным складзе. Прычым зрабілі гэта, не парушаючы заканадаўства. Яны маюць права прымаць такія рашэньні. Сёлета заканчваецца тэрмін легітымнасьці прэзідэнта краіны. Таму дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня выканалі свой абавязак — прызначылі дату выбараў на 16 траўня, а таксама абралі і зацьвердзілі склад Цэнтральнай выбарчай камісіі. Цяпер сьвяты абавязак гэтай Выбарчай камісіі арганізаваць і правесьці выбары, а ўсяго нашага грамадства прыйсьці 16 траўня на галасаваньне.

***— Міністр юстыцыі Беларусі, выступаючы па тэлебачаньні, сказаў, што перадвыбарчая кампанія, якую распачала апазіцыя, зьяўляецца супрацьзаконнай?***

— Міністр можа лічыць, як яму заўгодна. Вярхоўны Савет выканаў свой канстытуцыйны абавязак, Цэнтрвыбаркам працуе, фармуе рэгіянальныя камісіі і мэтанакіравана ідзе да выбараў 16 траўня. І калі ўлады ня будуць нам перашкаджаць, мы правядзем гэтыя выбары, згодна законаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, паводле якіх пяцігадовы тэрмін, на які быў абраны прэзідэнт, заканчваецца. А ягонае рашэньне працягнуць свае "паўнамоцтвы" з дапамогай "рэферэндума" 1996-га году дагэтуль непрызнанае ўсёй міжнароднай супольнасьцю. Вынікі таго апытаньня маглі быць прынятыя выключна як «рэкамендацыйныя». Яны павінны былі яшчэ дапрацоўвацца Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня. Прымусова ж уведзеныя прэзідэнтам ў якасьці заканадаўчых актаў, яны ня маюць ніякай законнасьці. І таму мы лічым, што кожны сумленны грамадзянін нашай дзяржавы абавязаны прыйсьці на выбары 16 траўня і выказаць сваю волю. Чаму? Шмат людзей «памыліліся» ў Лукашэнку. Я часта сустракаюся з людзьмі, якія галасавалі за яго, але сёньня яны абураныя тым, што адбываецца ў краіне. І яны — за выбары, яны гатовыя прыйсьці і прагаласаваць, каб выправіць сваю памылку. Чаму б ім ня даць такі шанц. Міністр юстыцыі, зразумела, выконвае загад Лукашэнкі: яго задача запалохаць апазіцыю і ня даць выбарам адбыцца. Мы ж — ня супраць таго, каб і Лукашэнка вылучыў сваю кандыдатуру на гэтыя выбары і змагаўся на роўных з былым прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром, з тым жа Генадзем Карпенкам, з камуністам Калякіным. Сярод кандыдатаў можа быць прадстаўлены ўвесь сьпектр палітыкаў...

***— Я трымаю ў руках заяву ад члена Цэнтрвыбаркама Генадзя Самойленкі, які развозіў па Брэсцкай вобласьці дакументы Цэнтрвыбаркама. Ён сьцьвярджае, што тамтэйшыя «вертыкальшчыкі» імкнуцца сарваць выбары...***

— У гэтым няма нічога дзіўнага: «вертыкальшчыкі» — людзі прызначаныя Лукашэнкам і адданыя яму. Яны сёньня займаюць адказныя пасады дзякуючы менавіта прэзідэнту Лукашэнку, і таму іх прамы абавязак — усімі сродкамі шкодзіць законным інтарэсам нашых грамадзянаў. Бо пры сыходзе Лукашэнкі з пасады, яны таксама страцяць свае пасады. Яны абараняюць сваю «шкуру» і ня больш за тое. Але і сярод чынавенства ёсьць разумныя, сумленныя людзі, якія будуць нам дапамагаць. Нягледзячы на тое, што сёньня ёсьць загад кіраўніцтва дзяржавы усялякім чынам замаруджваць выбары, палівацць брудам Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, Цэнтральную выбарчую камісію і тых людзей, хто пойдзе галасаваць...

***— А ці верагодны такі паварот справы, што па загаду зьверху «вертыкальшчыкі» змогуць сарваць выбары, што яны наогул не адбудуцца?***

— Вы ж ведаеце прымаўку: «Голас народа — голас Божы». Калі сёньня, нягледзячы на перашкоды з боку адміністрацыі прэзідэнта, «вертыкальшчыкаў», раённых уладаў і сельскіх саветаў па ўсёй дзяржаве ствараюцца рэгіянальныя выбарчыя камісіі па выбарах прэзідэнта, то ніякая ўлада, якая б магутная яна ні была, ня зможа спыніць людзей. Толькі пры адной умове: калі ўлады арыштуюць усіх сяброў выбарчых камісіяў, дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, лідэраў апазіцыйных рухаў і партыяў — яны змогуць сарваць выбары.




***— Скажыце, калі ласка, на вышую думку дэкрэт прэзідэнта аб перарэгістацыі партыяў і грамадзкіх арганізацыяў нейкім чынам зьвязаныя з выбарчай кампаніяй?***

— Дэмакратычныя сілы і ў тым ліку Вярхоўны Савет 13-га скліканьня сваім рашэньнем на некалькі крокаў апярэдзілі прэзідэнта. Перарэгістрацыя пройдзе з 1 лютага па 1 ліпеня, а выбары адбудуцца ў траўні. Таму тыя партыі, якія існуюць сёньня, працуюць згодна заканадаўства і будуць удзельнічаць ў выбарах на законных падставах, не зважаючы на гэты дэкрэт. Мэты ж дэкрэту відавочныя. Прэзідэнт хацеў бы пазбавіцца апазіцыйных партыяў, каб стаць паўнаўладным дыктатарам. У сувязі з гэтым зразумела, чаму "паднятая планка" сяброўства ў партыях і рухах, чаму задуманая люстрацыя сяброў партыяў і рухаў — цяпер яны павінныя падавацца падрабязныя зьвесткі па кожным сябры: прозьвішча, пасада, месца жыхарства. Пачынаецца татальная люстрацыя ўсіх апазіцыйна настроеных людзей. Ці не дзеля таго, каб прыняць потым, магчыма, нейкія рэпрэсіўныя меры. Альбо проста напалохаць людзей.

***— Як будуць праходзіць выбары?***

— Тэхналогія выбараў яшчэ адпрацоўваецца. Сёньня самае галоўнае стварыць камісіі, якія будуць працаваць на чыста тэхнічны вынік. Мы добра разумеем, якія нас чакаюць цяжкасьці. Але мы да іх рыхтуемся. Махавік выбараў закруціўся, яго нельга спыніць. Народ сёньня незадаволены палітычным і эканамічным становішчам у дзяржаве. Народу трэба даць магчымасьць зрабіць выбар, выказацца: я хачу жыць у нармальнай, незалежнай, прыгожай краіне, а ня ў гэтай пастаяннай нясьпэўнасьці, ня ў гэтым балоце...

І таму я перакананы: мы ў любым выпадку давядзем справу выбараў да лагічнага канца.

**Гутарыў**
**Мікола КАЧАН**

# Найперш — правы чалавека

## У Мінску адбыўся Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі

Тэма правоў чалавека стала адной з асноўных сярод тых, што абмяркоўваліся удзельнікамі нядаўняга Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі. Цалкам натуральна, што і сярод гасьцей Кангрэсу была значная колькасьць праваабаронцаў – прадстаўнікоў Расіі, Літвы, Францыі, ЗША, а таксама місіі АБСЕ ў Беларусі.



Прэзідыум кангрэсу...



... і мітынг у падтрымку кангрэсу

«Асноўныя правы і свабоды грамадзянаў зьяўляюцца вышэйшай каштоўнасьцю, і любая ўлада, якая іх парушае, ня можа быць прызнаная дэмакратычнай»,—гаворыцца ў рэзалюцыі Кангрэсу «Пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі». Прыняўшы гэты дакумент, дэмакраты яшчэ раз канстатавалі, што беларускія грамадзяне «пазбаўленыя магчымасьці ўдзельнічаць у кіраваньні сваёй краінай», а таксама атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю ды свабодна выказваць свае меркаваньні. Улады краіны рэзка абмяжоўваюць правы людзей на правядзеньне мірных вулічных акцыяў, аб'яднаньне ў грамадзкія і прафесійныя арганізацыі. Удзельнікі Кангрэсу нагадалі, што ў краіне сёньня не існуе незалежнага ад прэзідэнцкай улады суда, і запатрабавалі спыніць перасьлед людзей за іхнія палітычныя перакананьні. У тым ліку – вызваліць з турмаў усіх палітычных вязьняў, самыя вядомыя зь якіх – сябра «Маладога Фронту» Аляксей Шыдлоўскі, дэпутаты Уладзімір Кудзінаў і Андрэй Клімаў, адзін з лідэраў віцебскай апазіцыі Уладзімір Плешчанка. Яшчэ адно патрабаваньне да ўладаў – правесьці аб'ектыўны разгляд справаў экс-кіраўніка Нацбанку Тамары Віньнікавай, былога міністра Васіля Лявонава і вядомага старшыні калгасу Васіля Старавойтава.

Асаблівую ўвагу ўдзельнікаў Кангрэсу прыцягнула моўная праблема. Была прынятая рэзалюцыя «Аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь». Дэмакраты перакана́ўча заявілі ўсяму сьвету аб зьнішчальных тэндэнцыях: на Беларусі зачыняюцца беларускія класы, школы, радыёстанцыі, газеты, выключаюцца з навучальных праграмаў творы выдатных майстроў беларускай літаратуры, скарацілася выданьне беларускіх кніг. «...У Рэспубліцы Беларусь груба парушаюцца правы карэннай этнічнай супольнасьці на свабоднае разьвіцьцё сваёй мовы і культуры», — адзначана ў рэзалюцыі. Беларускія дэмакраты патрабуюць ад кіраўніцтва краіны «спыніць мэтанакіраваны ўціск беларускай мовы і культуры», спадзеючыся на салідарнасьць і маральную падтрымку беларусаў міжнароднай грамадзкасьцю.

Права на паўнавартаснае выкарыстаньне роднай мовы самым простым чынам зьнітавана з правам народа мець уласную дзяржаву, быць у ёй гаспадаром. Сітуацыя, што склалася за апошнія гады на Беларусі, прымусіла дэмакратычныя сілы краіны прыняць таксама сумесны дакумент «Пра пагрозу дзяржаўнасьці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь». Дэмакраты рашуча выказалі намер «бараніць незалежнасьць, дзяржаўнасьць і суверэнітэт краіны, процістаяць анексіі Беларусі ўсімі даступнымі сродкамі». Дамову, падпісаную 25 сьнежня прэзідэнтамі Лукашэнкам і Ельцыным, дэмакратычная апазіцыя Беларусі ня можа расцэньваць інакш, як «антыканстытуцыйны пакт». Як падкрэсьлілі ўдзельнікі Кангрэсу, такі пакт парушае ня толькі Канстытуцыю, але і старадаўнія традыцыі беларускай дзяржаўнасьці.

Па сутнасьці, кожная са шматлікіх рэзалюцыяў, прынятых Кангрэсам дэмакратычных сілаў Беларусі, ёсьць найперш праваабарончая – нават тады, калі ў ёй ідзе гаворка пра эканоміку ці палітыку. Насамрэч правы чалавека парушаюцца ў настолькі разнастайных галінах, што на практыцы ўсё зьнітоўваецца ў моцны вузел. Скажам, у дзень масавай акцыі супраць голаду і галечы міліцыянты могуць затрымаць чалавека толькі за тое, што ён размаўляе па- беларуску (на «апазіцыйнай» уладам мове!) , потым яго адвязуць у суд, дзе судзьдзя запатрабуе гаварыць толькі па-руску і пасадзіць на пяцьдзесяць сутак... Цалкам слушна, што, аб'яднаўшыся, дэмакраты ўзялі на сябе абавязак бараніць любога чалавека ад парушэньня любых яго правоў: ад права простага рабочага і селяніна на годны ўзровень жыцьця – да роўнага права розных палітыкаў зьвяртацца да народа праз прамы эфір тэлебачаньня. Парушэньні правоў чалавека – як асобы і грамадзяніна сваёй краіны – сёньня на Беларусі немагчыма выправіць найперш без палітычных зьменаў. Пакуль будзе існаваць дыктатура, датуль усе сферы нашага жыцьця будуць сьціснутыя жалезнымі абцугамі беззаконьня. Нібы шчупальцамі жудаснага спрута...

**Тацяна СЬНІТКО**

---

# Дзе ты, справядлівасьць?

У Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» з просьбай аказаць дапамогу зьвярнуўся даведзены да адчаю жыхар горада Барысава Крывіцкі Уладзімір Іванавіч. На працягу трох гадоў ён зьвяртаўся ў розныя судовыя інстанцыі аж да Вярхоўнага Суда, але станоўчых вынікаў па пытаньню аб кампенсацыі нанесеных яму маральных і матэрыяльных стратаў не атрымаў.

Сутыкнуўшыся з такой рэчаіснасьцю Уладзімір Крывіцкі прыйшоў да высновы, што ў нашай краіне чалавеку простаму абараніць свае правы немагчыма.

На сёньняшні дзень ён ужо ня здольны змагацца з існуючай судавытворчасьцю і незаконнымі рашэньнямі па зыску да адказчыка — ААТ «Будкомлекс». Сутнасьць справы ў тым, што 23 студзеня 1996 года на дарозе Барысаў — Мінск здарылася аўтаавارыя. Кіроўца ААТ «Будкомлекс» А.Хадкевіч на аўтамабіле МАЗ парушыў правілы дарожнага руху — выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з аўтамабілем «Жыгулі», якім кіраваў Крывіцкі. У выніку аварыі загінуў сын Крывіцкага — Уладзімір (1965 г.н). Унук Крывіцкага — Мікіта атрымаў пераломы рукі і сатрасеньне мозгу, а сам Уладзімір Крывіцкі з цяжкімі пашкоджаньнямі быў дастаўлены ў шпіталь, дзе правёў 9 дзён у непрытомным стане — на мяжы жыцьця і сьмерці. Пасьля гэтага яшчэ чатыры з палова́й месяцы яму давялося ляжаць у нерухомасьці, а яшчэ праз тры з паловай месяцы ён атрымаў другую групу інваліднасьці. Па гэтым факце была ўзбуджаная крымінальная справа, якую разгледзеў Барысаўскі раённы суд і 14 траўня 1996 года на адкрытым судовым пася-

*(Заканчэньне на стар. 7)*

 

# Мова пад забаронай

***Сітуацыя, пра якую чытачы "Права на волю" даведаюцца з гэтага артыкула, камусьці можа падацца ненатуральнай, непраўдападобнай альбо нават надуманай. Аднак, ў сёньняшняй Беларусі гэта, на жаль, звычайная рэальнасьць...***

Усё пачалося з таго, што электрамеханік дзяржпрадпрыемства "Белаэранавігацыя" Уладзімір Плакса напісаў на імя дырэктара заяву на матэрыяльную дапамогу. На беларускай мове.

Уладзімір ужо шэсць год прынцыпова піша і размаўляе па-беларуску, так што крок – лагічны. Яго непасрэдны начальнік Мікалай Іванюшчанка наклаў рэзалюцыю: "Уважаемый Плакса В.С.! Перепишите на русском языке". Можа быць, Мікалаю Сцяпанавічу падалося, што падначалены такім чынам замахваецца на ягоны аўтарытэт ці што яшчэ – невядома.

Далей падзеі развіваліся імкліва. Яшчэ ў 1997 годзе намесьнік дырэктара "Белаэранавігацыі" Ю.Кладаў на сходзе працоўнага калектыву забараніў Плаксу весці аператыўныя размовы і тэхдакументацыю на беларускай мове. Потым М.Іванюшчанка адмовіўся падпісаць заяву на дапамогу па той прычыне, што яна напісаная па-беларуску.

Летась гісторыя паўтарылася: заява, напісаная па-беларуску, была зноў адпрэчаная. Плакса пасля гэтага звярнуўся да дырэктара "Белаэранавігацыі" І.Шыманца з просьбай ацаніць дзеяньні Іванюшчанкі і Кладава. Сакратарка ягоную заяву прымае, але не рэгіструе: маўляў, унутраныя паперы неабавязкова рэгістраваць. Тройчы Уладзімір хадзіў да сакратаркі – тая стаяла, нібы скала.

Плакса звярнуўся ў камісію па працоўных спрэчках. Тут вынік быў: спачатку паперу згубілі, потым Уладзіміру адмовілі ў разглядзе канфлікту, бо "адсутнічаюць непаразуменьні паміж наймальнікам і работнікам" (Кладаў і Іванюшчанка не наймальнікі).

Нарэшце 24 траўня 1998 года Плакса атрымаў прамежкавую перамогу: М.Іванюшчанка дазволіў яму пісаць як па-руску, так і па-беларуску. Праўда, толькі заявы на матэрыяльную дапамогу.

Летась у чэрвені Уладзімір зноў наведаў сакратарку, нагадаў пра свае праблемы і папярэдзіў, што зьбіраецца зьвяртацца ў пракуратуру. Уладзіміра Плаксу дапусьцілі ў кабінет дырэктара. І.Шыманец і ягоны намесьнік Ю.Кладаў растлумачылі Уладзіміру, што ICAO (Міжнародная арганізацыя грамадзянскай авіяцыі, куды Беларусь уваходзіць таксама) карыстаецца чатырма мовамі: англійскай, іспанскай, французскай і рускай. Таму і ён, Уладзімір Плакса, павінен карыстацца рускай мовай (чаму не англійскай ці іспанскай, што было б ня менш "лагічна", кіраўнікі не патлумачылі). Беларускую мову Уладзіміру парэкамендавалі для "курылкі" і прыбіральні. Такім чынам, вызначылася месца беларускай мовы ў беларускай жа авіяцыі... У выпадку ж, калі Плакса не прыслухаецца да парады старэйшых таварышаў, яму паабяцалі "знайсьці" іншае месца працы. У канцы размовы сп. Шыманец загадаў сп. Кладаву скласьці сьпіс незадаволеных тым, што Плакса карыстаецца беларускай мовай.

Пасьля гэтага Уладзімір зьвярнуўся ў пракуратуру.

У Мінскай транспартнай пракуратуры заявай Плаксы займаўся малодшы саветнік юстыцыі А.Грыгор'еў. Ён спаслаўся на міжнародныя стандарты ICAO, арт. 28, 37 Чыкагскай канвенцыі аб міжнароднай грамадзянскай авіяцыі, згодна якой Беларусь абавязуецца прадастаўляць аэранавігацыйныя сродкі і забясьпечваць кіраваньне паветраным рухам. "З улікам вышэйвыкладзенага, — пісаў у адказе сп. Грыгор'еў, — патрабаваньні адміністрацыі дзяржпрадпрыемства "Белаэранавігацыя" аб выкарыстаньні Вамі рускай мовы пры вядзеньні тэхдакументацыі і аператыўных перамоў, зьяўляюцца абгрунтаванымі".


*"Двух'языкі" беларус*

Далей Уладзімір звяртаецца ў Беларускую рэспубліканскую транспартную пракуратуру. Як можна меркаваць з адказу намесьніка беларускага транспартнага пракурора Л.Нікалаева, станоўчы зрух акрэсьліўся: "Патрабаваньне начальніка базы ЭРТОС Іванюшчанкі М.С. перапісаць заяву Плаксы У.С. на рускай мове замест беларускай супярэчыць канстытуцыйна замацаванаму раўнапраўю дзьвюх моў, на што ўказана адміністрацыі..." Але "падстаў для пракурорскага ўмяшаньня" не ўстаноўлена. І Плакса піша ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

Да справы мужа падключылася жонка, Вольга. Яна зьвярнулася да начальства мужа і папрасіла даць тлумачэньні па моўнаму пытаньню. Іван Уладзіміравіч Шыманец іх даў, папрасіўшы папярэдне прабачэньня "за непрадуманыя дзеяньні сваіх падначаленых".

Што датычыць мовы, то дырэктар спаслаўся на Канстытуцыю РБ (са зьмяненьнямі і дапаўненьнямі, прынятымі пазьней), Закон РБ "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" 1990 года, а таксама на знаёмыя нам стандарты ICAO. Іван Уладзіміравіч прывёў такія аргументы: усе краіны СНД рыхтуюць авіясьпецыялістаў на рускай мове, на ёй жа – уся авіятэрміналогія. А прымяненьне беларускай мовы можа прывесьці да памылак і, урэшце, да парушэньня бясьпекі палётаў.

Гэта, вядома, моцны аргумент, толькі Плакса неўдзельнічае ў кіраваньні палётамі і не вядзе перамоў з экіпажамі самалётаў. Мэтазгодна задаць таксама рытарычнае пытаньне: на якой мове гавораць між сабою і пішуць заявы, скажам, немцы, палякі ці ўкраінцы? Няўжо на рускай?

Але ж у нас ёсьць Закон "Аб мовах" 1990 года, праўда, са зьмяненьнямі і дапаўненьнямі 1998 года. Тым ня менш, у арт. 9 чытаем: "Тэхнічная і праектная дакументацыя ў Рэспубліцы Беларусь рыхтуецца на беларускай або рускай мове, а з улікам прызначэньня – на іншай". Заўважце: і на беларускай, і на рускай.

Уладзімір Плакса, абараняючы сваё права, вырашыў пайсьці афіцыйным шляхам. Многія, вельмі многія рабілі гэтаксама. Вынік быў аднолькавы. У тым сэнсе, што выніку не было ўвогуле.

Справай, між тым зацікавіўся Канстытуцыйны суд. Настолькі, што Плакса атрымаў адказ ад самога старшыні КС Г. Васілевіча: "... У сувязі з важнасьцю ўздымаемых вамі пытаньняў Канстытуцыйным судом унесены прапановы на імя Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ А.А.Малафеева аб устанаўленьні мер адміністратыўнай адказнасьці за парушэньне названага заканадаўства..." Такім чынам: за парушэньне моўнага заканадаўства ў нас нават не прадугледжаная адказнасьць.

Пасьля гэтага, праўда, заварушылася і Беларуская транспартная пракуратура. Яна папярэдзіла Кладава і Іванюшчанку аб недапушчальнасьці парушэньня Закона "Аб мовах", пра што і пасьпяшалася паведаміць Уладзіміру. Занепакоіліся таксама ў Дзяржкамітэце па авіяцыі. Намесьнік старшыні У.Ермакоў запэўніў, што "прымяненьне рускай мовы ў транспартнай сферы... не супярэчыць Закону "Аб мовах РБ". Верагодна, беларускай – таксама?

І на гэтым усё? Не, Уладзімір Плакса падаў зыскавую заяву ў Кастрычніцкі суд г.Мінска. Ён хацеў, каб яго непасрэдныя начальнікі Кладаў і Іванюшчанка папрасілі ў яго прабачэньня, а таксама заплацілі кампенсацыю за маральныя страты.

Суд заяву ў Плаксы не прыняў... Уладзімір Плакса зараз у роздумах: ці не падаць заяву ў Пастаянную камісію па правах чалавека пры ААН?..

**Андрэй СЯРЖАН**



 

 



# Падзеі Факты Каментары



Пікет у Баранавічах 23 студзеня 1999 году.

(Пачатак на стар. 1)

*26 студзеня* Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь адмовіўся задаволіць скаргу Беларускага студэнцкага саюза «Салідарнасьць», якую той падаў на адмову Міністэрства юстыцыі РБ у рэгістрацыі прафсаюза. Як паведаміў прадстаўнік ініцыятыўнай групы прафсаюза «Салідарнасьць» Юрась Губарэвіч, наступным крокам будзе «абскарджаньне гэтага рашэньня ў належным парадку»: скарга будзе накіраваная ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

*29-30 студзеня* ў Мінску адбыўся Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі, на якім была прынятая рэзалюцыя «Пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі». «Кангрэс лічыць недапушчальным праследаваньне за палітычныя пераканаьні і патрабуе вызваліць усіх вязьняў сумленьня, у тым ліку Аляксея Шыдлоўскага, Уладзіміра Кудзінава, Андрэя Клімава, Уладзіміра Плешчанку, і патрабуе непрадузятага разгляду справаў Тамары Віньнікавай, Васіля Лявонава і Васіля Старавойтава», — сказана ў рэзалюцыі Кангрэсу.

*1 лютага,* на закрытым пасяджэньні Кіраўскага раённага суда было зачытанае заключэньне медыцынскай камісіі, якая на працягу тыдня назірала за падсудным экс-старшынём ЗАТ «Расьсвет» Васілём Старавойтавым. Меркаваньні медыкаў-эксператаў разышліся. Згодна, заключэньня псіхіятра Валерыя Буданава, В.Старавойтаў па сваім псіхічным стане ня мог зьяўляцца працэсуальнай асобай і ўтрымлівацца пад вартай. Але заключэньне Буданава не ўвайшло ў афіцыйнае заключэньне экспертнай камісіі. Афіцыйнае заключэньне камісіі — падсудны абсалютна здаровы.

*2 лютага* Беларускі Хельсінкскі Камітэт (БХК) выступіў з заявай, у якой патрабуе неадкладнай адмены дэкрэту прэзідэнта « Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці палітычных партый, прафесійных саюзаў і іншых грамадскіх аб'яднаньняў», падпісанага 26 студзеня. «Дэкрэт прэзідэнта Рэспублікі Беларусь груба парушае арт 20 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, арт. 22 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных справах, арт. 36 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якія гарантуюць грамадзянам Беларусі магчымасьць аб'яднаньня ў палітычныя, прафесійныя і інш аб'яднаньні», — гаворыцца ў заяве.

*2 лютага* ў Цэнтральным судзе г.Мінску адбыўся суд над актывістам «Маладога Фронту» Вадзімам Канапацкім. Ён абвінавачваўся ў парушэньні арт. 167.2 КаАП РБ (выкарыстаньне незарэгістраванай сімволікі). Гэты артыкул прадугледжвае адміністратыўную адказнасьць ад папярэджаньня і штрафаў розных памераў да адміністратыўнага арышту тэрмінам на 15 сутак. В.Канапацкі быў затрыманы 31 студзеня падчас правядзеньня акцыі апазіцыі ў падтрымку Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Падчас мітынгу на плошчы Парыжскай камуны В.Канапацкі стаяў са сьцягам «Маладога Фронту» — на белым тле чырвоны крыж, на чырвоным крыжы шчыт з выявай чорнага шасціканцовага крыжа. Супрацоўнікі, якія затрымалі В.Канапацкага, склалі пратакол і выдалі яму позву ў суд на 1 лютага. Але першага лютага суд не адбыўся, таму што супрацоўнікі міліцыі вырашылі грунтоўна падрыхтавацца да судовага працэсу і зьвярнуліся з запытам ў Міністэрства юстыцыі «аб наяўнасьці рэгістрацыі сьцяга указанага ўзору». 2 лютага адбылося судовае пасяджэньне. Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» прадставіў В.Канапацкаму грамадзкага абаронцу — Валянціна Стэфановіча. Судзьдзя Анатоль Барысёнак у выніку разгляду справы вынес В. Канапацкаму мінімальнае адміністратыўнае пакараньне — папярэджаньне.

*У лютым 1999 года*, адпаведна Канстытуцыі РБ 1994 года, прадстаўнікі Цэнтральнай Выбарчай Камісіі (ЦВК), па даручэньні старшыні ЦВК Віктара Ганчара, пачалі развозіць па гарадах і раённых цэнтрах Беларусі пакеты з дакументацыяй, якая мае непасрэдныя адносіны да правядзеньня выбараў прэзідэнта РБ, прызначаных на 16 траўня 1999 года. У Брэсцкай вобласьці распаўсюджваньнем дакументацыі займаўся член ЦВК Генадзь Самойленка. Па словах, Г.Самойленкі «ў большасьці раёнаў і гарадоў з разуменьнем ставяцца да маючых адбыцца выбараў Прэзідэнта. У размовах з людзьмі гучыць негатыўнае стаўленьне да палітыкі прэзідэнта А.Лукашэнкі. Людзі лічаць, што выбары павінны адбыцца ў тэрмін». Аднак сярод кіраўнікоў Брэсцкай вобласьці сустракаюцца і такія (пераважна гэта стаўленьнікі прэзідэнта, так званыя «вертыкальшчыкі»), якія імкнуцца сарваць выбары. Па словах сп. Самойленкі, яго жорстка сустрэлі старшыня Маларыцкага райвыканкаму і старшыня Кобрынскага гарвыканкаму. 3 лютага 1999 года ў 13.25 спадар Самойленка сустрэўся са старшынёй Брэсцкага аблвыканкама Заламаем. У прысутнасьці сьведкаў Самойленка паспрабаваў перадаць старшыні аблвыканкама пакет з дакументацыяй, якая мае дачыненьне да выбараў прэзідэнта. Старшыня аблвыканкама адмовіўся браць дакументы, пры гэтым ён заявіў: «Вымятайся з гэтага дому, інакш ты такое тут спазнеш, што будзеш пасьля шкадаваць усё жыцьцё». Генадзь Самойленка лічыць, што супраць яго, як прадстаўніка ЦВК, былі выкарыстаныя «супрацьдзеяньне і пагроза з магчымым далейшым працягам».

*5 лютага* ў Мінску ў раёне плошчы Перамогі члены фашыстоўскай арганізацыі Рускае нацыянальнае адзінства (РНЕ) зьбілі актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97» — Андрэя Саньнікава (міжнародны каардынатар грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97»), Зьміцера Бандарэнку (сябра аргкамітэта грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97» і прэс-сакратара Алега Бябеніна. Быў зьбіты таксама выпадковы прахожы — афіцэр Узброеных Сілаў РБ. Андрэй Саньнікаў быў дастаўлены ў бальніцу №2. У яго зламаная пераносьсе і некалькі рабрынаў, у А.Бябеніна зафіксаваныя шматлікія сьляды ад удараў.

*6 лютага* адбыўся чарговы сойм «Маладога Фронту». Асобна на сойме абмяркоўвалася пытаньне аб адносінах да неафашысцкага руху Рускага нацыянальная адзінства (РНЕ). Паколькі апошнім часам дзейнасьць гэтай арганізацыі актывізавалася ў Беларусі, то «Малады Фронт» прыняў рашэньне — супрацьпаставіць неафашыстам сваю сістэму грамадскай бясьпекі. Запланаванае стварэньне дружынаў «Маладога Фронту», якія пры зьяўленьні людзей са свастыкай і іншай фашысцкай сімволікай павінны будуць здаваць іх у рукі міліцыі. У найбольш людных раёнах плануецца ўвесьці дзяжурства маладафронтаўцаў, каб «пазбавіць фашыстаў жыцьцёвай прасторы».

*8 лютага* адбылася прэс-канферэнцыя генеральнага пракурора Беларусі Алега Бажэлкі, на якой ён заявіў, што пракуратура Беларусі ўважліва сочыць за дзейнасьцю Вярхоўнага Савету і Цэнтрвыбаркама на чале з Віктарам Ганчаром. Рэспубліканская пракуратура расцэньвае дзеяньні дэпутатаў па падрыхтоўцы выбараў прэзідэнта РБ як замах

 

на зьвяржэньне канстытуцыйнага ладу. «Калі нашае папярэджаньне ня будзе мець узьдзеяньня, то вінаватыя асобы будуць падвергнутыя адпаведнай крымінальнай і адміністратыўнай адказнасьці», — сказаў Генеральны пракурор. На прэсканферэнцыю Генеральнага пракурора хацеў патрапіць журналіст і праваабаронца Валеры Шчукін, аднак міліцыянеры адмовіліся яго прапусьціць у будынак рэспубліканскай пракуратуры. На Валерыя Шчукіна быў складзены пратакол за парушэньне грамадзкага парадку.

*8 лютага* кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў беларускай (ФПБ) запатрабавала ад уладаў перагледзець дэкрэт прэзідэнта ад 26 студзеня 1999 год аб дзяржаўнай рэгістрацыі і перарэгістрацыі палітычных партый, прафсаюзаў і грамадзкіх аб'яднаньняў.

*11 лютага* на скрыжаваньні вуліц Гарадскі Вал і Няміга, недалёка ад Мінскага СІЗА адбыўся пікет, прысьвечаны гадавіне знаходжаньня за кратамі дэпутата ВС 13-га скліканьні Андрэя Клімава, які быў арыштаваны 11 лютага 1998 года. Пікет быў арганізаваны жонкай Андрэя Клімава — Тацянай Леановіч разам з жонкай другога зьняволенага дэпутата Уладзіміра Кудзінава — Зояй Кудзінавай. На пікеце прысутнічалі актывісты Аб'яднанай Грамадзянскай партыі, грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97», Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96», а таксама сваякі і сябры зьняволеных. На пікеце былі лозунгі: »Сёньня яны — заўтра вы!», «Свабоду дэпутатам А.Клімаву і У.Кудзінаву».

*10 лютага* ў Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» зьвярнуўся Уладзімір Антонаў, які паведаміў наступнае: «9 лютага Цнянская Рада БНФ праводзіла пікет на Камароўскім рынку г. Мінску. Прыкладна ў 14.30 да месца правядзеньня пікету пад'ехаў эвакуатар аўтамабіляў, і супрацоўнік міліцыі паспрабаваў эвакуяваць машыну старшыні Цнянскай Рады БНФ "Адраджэньне" Уладзіміра Юхо. Сп.Юхо запатрабаваў тлумачэньня. Супрацоўнікі міліцыі патлумачылі, што машына няправільна прыпаркаваная. Але сп.Юхо заўсёды падчас пікетаў ставіў машыну на гэтае месца і раней гэта не выклікала нараканьняў з боку міліцыі».

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

# Неафашысты адчулі сябе ў Мінску вольна і пачалі зьбіваць людзей, нязгодных з іх ідэалогіяй

У цэнтры Мінску актывісты фашыстоўскай арганізацыі РНЕ (Русское национальное единство) зьбілі беларускіх праваабаронцаў.

Гэта адбылося каля дзевяці гадзінаў вечару 5 лютага ў раёне плошчы Перамогі. Карыстаючыся поўным патураньнем з боку прадстаўнікоў праваахоўных органаў члены фашыстоўскай арганізацыі Рускае нацыянальнае адзінства раздавалі тут мінчанам улёткі сваёй арганізацыі, якія накіраваныя на ухваленьне «новага рускага парадку» і на распальваньне міжнацыянальнай варожасьці. Непаўнагадовыя фашысты стаялі групамі па тры чалавекі каля пераходу на станцыю метро «Плошча Перамогі», паводзілі сябе нахабна і агрэсіўна, і толькі чакалі нагоды, каб з некім счапіцца ў спрэчцы.

У гэты самы час з працы вярталіся Андрэй Саньнікаў (міжнародны каардынатар грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97») і Зьміцер Бандарэнка (сябра аргкамітэта грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97»). Актывісты «Хартыі-97» былі абураныя нахабнымі паводзінамі непаўнагадовых фашыстаў і зрабілі ім заўвагу. У адказ на свае словы Андрэй Саньнікаў атрымаў ўдар у твар. Зьміцер Бандарэнка ўступіўся за калегу. У гэты момант з бліжэйшага двара выбеглі каля дваццаці маладых людзей і падлеткаў, апранутых у камуфляжную форму з нарукаўнымі павязкамі з выявай сімвала РНЕ — чырвонай свастыкай. Фашысты білі безабаронных людзей нагамі, у тым ліку і па твары. Дзеяньнямі неафашыстаў, большасьць з якіх былі непаўнагадовымі, кіраваў чалавек сярэдняга ўзросту са свастыкай на рукаве.

Напад на праваабаронцаў адбыўся ў самым цэнтры Мінску, дзе звычайна дзяжураць нарады міліцыі. Толькі на гэты раз іх побач не было. Людзі абыякава праходзілі побач. Нават дзяжурны міліцыянер з метро ня выклікаў патрульную машыну і не аказаў дапамогі. За праваабаронцаў уступіўся толькі адзін прахожы — афіцэр Узброеных Сілаў. Трапіў у бойку таксама прэс-сакратар «Хартыі-97» Алег Бябенін, які вяртаўся з працы. Падчас зьбіцьця праваабаронцаў неафашысты брыдкасловілі і крычалі: «Жиды!», «Если хотите жить — убирайтесь на ...» Дарослы мужчына са свастыкай на рукаве кіраваў дзеяньнямі падлеткаў. Саньнікава зьбівалі каля 10 чалавек. Афіцэр, які ўмяшаўся у бойку, быў кінуты на асфальт і жорстка зьбіты. Сілы былі няроўныя. Выкліканая па тэлефоне міліцыя да месца здарэньня ўсё не пад'язджала. Таму Зьміцер Бандарэнка пабег па дапамогу ва Управу Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», якая знаходзіцца непадалёку на вул. Варвашэні, а Алег Бябенін кінуўся ў Акадэмію міліцыі, якая знаходзіцца побач з Управай фронту. Варта адзначыць, што на несанкцыянаваныя мірныя пікеты супраць дыктатуры, міліцыянеры зьяўляюцца праз некалькі хвілінаў пасьля іх пачатку.

Калі на месцы здарэньня зьявіліся актывісты Народнага Фронту і супрацоўнікі міліцыі, то непаўнагадовыя неафашысты разам са сваім «камандзірам» зьніклі ў невядомым накірунку. Андрэй Саньнікаў ляжаў у лужыне крыві... Хлопцы з «Маладога Фронту» даставілі А.Саньнікава ў гарадскую клінічную бальніцу №2. У А.Саньнікава зламаная пераносіца, у А.Бябеніна зафіксаваныя шматлікія сьляды ўдараў.

Гэтыя падзеі разгорталіся ў самым цэнтры Мінску, у некалькіх метрах ад абеліску — сімвалу перамогі над фашызмам. Але, як бачым, урокі гісторыі забываюцца... Бо нават прэзідэнт краіны, найбольш пацярпелай ад зьверстваў фашызму, адкрыта ўхваляе дзеяньні Гітлера, а на вуліцах баевікі са свастыкай зьбіваюць безабаронных людзей. Дарэчы, пры рэжыме Лукашэнкі ніводзін неафашыст ня быў пакараны. У той час, як за антыпрэзідэнцкія лозунгі маладых людзей адпраўляюць за краты. Лозунгі «Жыве Беларусь!» старанна замалёўваюцца. У той жа час на сьценах у гарадах Беларусі перыядычна зьяўляюцца антысеміцкія лозунгі, накіраваныя на распальваньне міжнацыянальнай варожасьці, аўтары якіх застаюцца непакаранымі. І вось вынік такой "палітыкі" — у 1999 годзе фашысты пачалі адкрыта зьбіваць людзей нязгодных з іх ідэалогіяй проста на вуліцах сталіцы Беларусі.

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

# Дзе ты, справядлівасьць?

*(Пачатак на стар.4)*

джэньні вынес прысуд: «Хадкевіча А. прызнаць вінаватым і пакараць пазбаўленьнем волі на 3 гады ўмоўна, не пазбаўляючы пры гэтым правоў кіраваць транспартнымі сродкамі. Прызнаць за пацярпелымі Крывіцкім У.І і Крывіцкім М.У. права на задавальненьне зыскаў». Пытаньне аб разглядзе зыскаў было адразу ж перададзенае ў грамадзкую судавытворчасьць.

З таго часу прайшло ўжо тры гады, а задаволіць свой зыск цалкам Уладзімір Крывіцкі ня можа. Яму давялося зьвяртацца ў розныя судовыя інстанцыі, былі прынятыя шматлікія судовыя рашэньні і пастановы. Часткова зыск быў задаволены, а тое, што тычыцца пашкоджанага аўтамабіля, які не падлягае рамонту, застаецца нявыкананым. Фірма «Будкомлекс», якая павінна была сплаціць грошы, спасылаецца на цяжкае фінансавае становішча.

По сёньняшні дзень інвалід ІІ групы Уладзімір Іванавіч Крывіцкі, які страціў у аўтакатастрофе сына і здароўе, працягвае грукацца ў дзьверы розных судовых установаў у пошуках справядлівасьці. Але што ім да клопатаў і праблемаў простага чалавека...

**Мікола КАЧАН**

**Андрэй Мельнікаў**

# Вандроўка за краты



Адразу па знаёмстве са мною адвакат напісаў скаргу на зьмяненьне меры стрыманьня ў суд Ленінскага раёну. Мая ж уласная скарга да адрасата "не дайшла"...

Зьвяртаю ўвагу, што некаторыхі з зэкаў возяць на допыт у КДБ не ў "сабачніку", а ў салоне. Думаю, тых, хто найцікавейшы для сьледства. Пры мне гэткага "гонару" ўдастойваецца сівы паляк, што праходзіць па адной справе з Мафіёзі і дае на таго найболей паказаньняў, ды мытнік, з якім сядзелі С. і В., *і які, па іх словах, атрымлівае па* дзьве "дачкі" у месяц. З бландзінчыкам мытнік вітаецца за руку. Па словах Алега, з якім бачымся на закрыцьці справы, у салоне вазілі і апаратара ГРТ Завадзкага.

Аднойчы едзем у адным "сабачніку" з палякам з карцара (пра яго таксама ўзгадае Шарамет). Трохі размаўляем па-польску. Худы барадаты паляк у падранай марынарцы ніяк ня можа сагрэцца, *бо ўжо доўга галадае*. Бяру яго далоні ў свае. Дапамагае гэта мала. Паляк з Кракава, абвінавачваецца ў нейкіх валютных махінацыях. Пачуўшы, што я бард, запытвае прозьвішча. Пра мяне, вядома, ён ня чуў.

Пасьля сыходу банкіра ўсе спадзяванкі на "целек" зьвязваюцца са мною. Тым больш, адвакат сказаў пра такую *магчымасьць. Спадзяванкі "жылі" да* пачатку лістапада, пакуль не прыехала жонка і не запэўніла, што "целека" ня будзе ("Табе яго ўсё роўна не перадалі б"). Гэта каштуе мне некалькіх вельмі непрыемных размоваў з сукамернікамі (на турме трэба адказваць за свае словы і выконваць абяцанкі). Жонка ж прызнаецца ў тым, што стараецца ўсяляк пазьбягаць паведамленьняў пра мяне ў прэсе – баіцца за мяне і сям'ю ("Ты – *не Шарамет. А ў Стоўбцах узялі хлопцаў* з "Маладога Фронта". Пра іх сталі пісаць – дык нешта з жонкай аднаго здарылася... А сябры – ведаюць. Вольга Цярэшчанка езьдзіла ў Мінск, кажа – усе смяюцца: "Мельнікаў сам сябе пасадзіў, дурань...").

Першай з мінскіх газет пра тое, што я ў турме паведамляе "ЛіМ". Пад руб*рыкай "Чуткі". Затым піша – Зьміцер* Бартосік у "Нашай Ніве". Жонцы не падабаюцца абедзьве публікацыі і яна кажа нямала крыўдных словаў у адрас газетаў – непакоіцца, што гэта сапсуе справу. На маю думку, абсалютна дарэмна. Я ўдзячны, што нарэшце пра мяне ўзгадалі і паведамілі: будуць ведаць і тыя, хто ня ведаў.

На чарговым допыце адвакат па*казвае мне газету "Свобода" з арты*кулам пра мяне. Здаецца, нешта зварухнулася. Калега Турача, сьледчы Шчур чуў напярэдадні мае песьні ў перадачы Надзі Кудрэйкі: "А вы, аказваецца, вядомы чалавек!", — кажа ён. Нават бландзінчык з шокерам пачаў паводзіць сябе больш карэктна.

Наступным вечарам у нашай "хаце" зьяўляецца С.

Калі выпускаюць апаратара ГРТ Завадзкага, праблісквае надзея: пачалося. Потым да нас прыносяць газету "Знамя юности" з ягоным інтэрв'ю – уся хата сьмяецца над "рэдкімі кавалачкамі сала ў супе" і, асабліва над "пасьля сьняданку зьняволеныя расходзяцца па камерах". С. будзе расказваць потым, што Завадзкаму "маякавалі" і скажа, хто ў яго "хаце" "кумавой"...

На адной з верасьнёўскіх "гулак" чуем, як "тубік" Б. з адзіночкі, перакрыкваючыся з суседнім дворыкам, дакляруе перадаць Шарамету, каб той "не марозіў". "Будзе марозіць – я яму ўстрою Шарамецьева!" Праз некалькі дзён у чарговай "ЗЮ" бачым загаловак: "Шеремету – Шереметьево."

Па вызваленьні Шарамета турма адразу неяк сьцішваецца. Раней увечары пасьля адбою часта было чуваць з панадворку: "Ша-ра-мет! Вы-хо-дзь! Шарамет! Выходзь!.." З надзеяй прыслухоўваўся я да тых гукаў, спадзею*чыся некалі пачуць і "Мель-ні-каў!.."*

З вызваленьнем Шарамета Мафіёзі дае паганяла "Шарамет" мне і жартаўліва намагаецца запэўніць паставых, што прозьвішча сапраўднае. Магутная і вульгарная паставая Марыя, якую між сабою завем Машкай і Кабылай, узіраецца ў мяне, пэўна, секунд пятнаццаць і ўрэшце выдае: "З яго гэтакі Шарамет, як з мяне балерына". Але з таго часу таксама пачынае зваць мяне Шараметам. *Машка – хамаватая*, але, не без артыстызму. Прынамсі, кожная яе сентэнцыя, безадносна ад зьместу, паляпшае настрой.

Першыя тыдні ў нашай "хаце" Мафіёзі амаль бесперапынна распавядае. Кажа, ехаў у адным "сталыпіне" з дзедам па прозьвішчы Лукашэнка. Дзядок забіў свайго сына. І пра гэтага персанажа ўзгадае Шарамет.

Напачатку кастрычніка праходжу псіхіятрычную экспертызу. Вядуць у той жа будынак, дзе сустракаюся з адвакатам. Чацьвёрка псіхіятраў у цывільным не адказвае на вітаньне, не называе сябе, але "загружае" пытаньнямі і ўважліва назірае.

Вынікі той экспертызы чытаю пры азнаямленьні са справай. Гэта недзе пятае за жыцьцё псіхіятрычнае заключэньне аб маім стане, і кожны раз яно кардынальна адрозьніваецца ад папярэдняга. Сапраўды, медыцына – ёсьць мастацтва.

10 кастрычніка ўсю "хату" перакідваюць на трэці паверх. Камера №56. Адсюль добра відаць будынак праз вуліцу. Тэарэтычна, можна туды "застрэліцца". На трэцім паверсе вялікія праблемы з вадой. Часта яе зусім не бывае. Назапашваем ваду ў пластыкавыя літровыя бутэлькі. Пад намі – *камера "тры-чатыры"*. Тут досыць актыўны рух. Штодня па некалькі разоў "ганяем коней". Пэўна, гэта становіцца адной з прычынаў вялікага "шмону" падчас майго дзяжурства. Дзяжурны застаецца ў хаце, астатнія часова заганяюцца "на кічу". Мянты лютуюць, але нашага "коніка" не знаходзяць. Канфіскоўваюць вадкае мыла, пластыкавыя бутэлькі, прылады для шытва...

З этапа вяртаюцца два былыя жыхары " хаты" "пяць-шэсць". Адзін з іх – М. — добра перамалёўвае разнастайныя выявы. Мафіёзі дае М. хрысьціянскія брашуркі і неўзабаве – гатовыя два абразкі. Мацуем іх мылам да сьцяны. Абразкі вісяць некалькі дзён, пасьля іх зьдзірае карпусны з паганялам "Сямімесячны". М. вырабляе новыя абразкі, мы мацуем іх па новай, яны дажываюць да ад'езду М. на чарговы этап. Затым Сямімесячны зноў зьдзірае іх.

На адной з "гулак" *знаёмімся* праз сьценку з зэчкамі з суседняга дворыка. Мы – "палітычныя", яны – "эканамічныя". Яны сьпяваюць нам, я сьпяваю ім сваю "Казку". Увечары рыхтуем да іх істотны грузік з цукеркамі, цыгарэтамі. Пішу ім мульку, дзе, апроч іншага, тэкст "Казкі". Гонім грузік амаль на другі канец корпуса. Наступнай раніцай, 24-га, зноў усю хату пераганяюць у "тры-тры". Адказ ад "эканамічных" атрымаць не пасьпяваем.

*(Працяг. Пачатак у №№ 15-26)*

*(Працяг будзе)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*